# Дняпроўская СТРОМА




№ 2 май 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕННЯ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ


## Песнярам Беларусі

17 мая 2012 г. у Магілёўскай абласной бібліятэцы адбылася імпрэза да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Для шматлікіх наведвальнікаў, якіх сустрэлі дырэктар бібліятэкі Ілона Уладзіміраўна Сарокіна, намеснік дырэктара Вольга Аляксандраўна Чумакова, галоўны бібліятэкар Алла Міхайлаўна Васіленка, была разгорнута кніжная выстава *“Твае песняры, Беларусь”,* прысвечаная жыццёвым шляхам народных паэтаў. Загадчыца аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Тамара Міхайлаўна Калініна і вядучы бібліятэкар Наталля Леанідаўна Карытка расказалі аб галоўных жыццёвых падзеях Я.Купалы і Я.Коласа ў кантэксце гісторыі Беларусі. Прысутныя не толькі ўважліва слухалі, але і самі актыўна ўдзельнічалі -- выразна чыталі прапанаваныя паэтычныя радкі Купалы і Коласа.



*Т.М.Калініна робіць агляд кніжнай выставы*



*Гучаць паэтычныя радкі...*



*Мікола і Ала Яцковы спяваюць песні на вершы Янкі Купалы*



У імпрэзе таксама прыняў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення грамадскага аб’яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў” Мікола Яцкоў, які распавёў аб удзеле Янкі Купалы ў Вайсковай камісіі 1919 г. і аб гісторыі з’яўлення купалаўскага песеннага цыкла *“На вайсковыя матывы”.* Быў прэзентаваны зборнік *“На вайсковыя матывы. Песні на ваяцкі лад”* з вершамі Я.Купалы, музыку да якіх напісаў М.Яцкоў. У выкананні Міколы Яцкова і Алы Яцковай прагучалі тры песні з гэтага зборніка. Таксама у падарукак бібліятэцы былі перададзены новыя кнігі, выдадзеныя руплівасцю С.Чыгрына і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У імпрэзе прыняла удзел і пісьменніца Т.Аўсяннікава.

*С.П.*



*Новыя кнігі для бібліятэкі уручаюцца І.У.Сарокінай*



*Фотаздымак на ўспамін (злева направа): В.А.Чумакова, А.М.Васіленка, М.А.Яцкоў, А.М.Яцкова, Т.М.Калініна, І.У.Сарокіна, Т.П.Аўсяннікава, Н.Л.Карытка.* *Фота Вольгі Сярновай.*

## Каб помнілі...



*Аляксандр Браніслававіч ХЛІМАНОВІЧ*

24 мая 2012 г. адбылася падзея, якую доўга чакалі прыхільнікі творчасці магілёўскага паэта, кампазітара і педагога Аляксандра Браніслававіча Хлімановіча -- пабачыў свет зборнік паэзіі *«Поэтическая тетрадь».* Яго складаюць вершы, якія былі напісаны А.Хлімановічам на працягу яго жыцця -- на вялікі жаль, заўчасна кароткага. Частка вершаў належыць Людміле Віктараўне Хлімановіч - жонцы і паплечніцы паэта. Кніжка выдадзена руплівасцю унукаў - Ігара і Іллі Сцяпанавых.

З гэтай нагоды ў магілёўскай абласной бібліятэцы адбылася прэзэнтацыя новага зборніка, якую бліскуча правялі загадчык аддзела перыёдыкі Аксана Барысаўна Дабравіцына і бібліятэкар Ірына Мікалаеўна Абрамовіч.

Аповедам пра мужа, пра сумесную творчасць падзялілася Л.Хлімановіч. Вельмі добрыя словы казалі сябры, калегі па працы ў Магілёўскім вучылішчы культуры. Успамінамі пра незабыўнага Настаўніка падзяліўся Мікола Яцкоў, вучань А.Хлімановіча, які падкрэсліў, што менавіта сяброўства з гэтым унікальным чалавекам падштурхнула яго да творчасці. А шматгадовае ліставанне паміж імі напаўняе і сёняшні дзень цеплынёй, шчырасцю і сардэчнасцю.

М.Яцкоў перадаў гэты свой архіў перапіскі Л.Хлімановіч, што з’явілася для яе вялікай і радасней нечаканасцю. Магчыма, калісьці эпісталярная спадчына А.Хлімановіча таксама будзе надрукавана.



*Л.В.Хлімановіч*



*Выступае Мікола Яцкоў*




*Сябры паэта*

Прапануем вашай увазе адзін з вершаў Аляксандра Браніслававіча Хлімановіча са зборніка «Поэтическая тетрадь» - як адкрыццё сусвету гэтага непаўторнага паэта і як ягоны запавет усім нам.

*Аліна САВІЦКАЯ.*



Александр ХЛИМАНОВИЧ

### *Как трудно...*

Как трудно людям нужным быть,
Дерзать, работать и творить,
Чем можно близким помогать,
Себе пощады не давать,
Писать лишь правду обо всём
И зажигать сердца огнём,
Из тысяч слов найти одно,
В котором всё отражено.

Как трудно путь свой отыскать
И по нему вперёд шагать,
Через преграды все пройти
И не свернуть с того пути.
Презрев жизнь личную свою,
Всегда быть в боевом строю.
За правду вечно воевать
И никогда не отступать.

Не просто быть самим собой
И не кривить с людьми душой.
Гореть в работе день и ночь,
А лень толкать в три шеи прочь!
Всё время истину искать,
Зло добротою побеждать,
Всегда на всё свой взгляд иметь
И отстоять его суметь.

Да! Нелегко поэтом быть!
Страдать, надеяться, любить.
Брать на себя всю боль земли,
Чтоб люди в счастье жить могли.
Но кто сквозь это всё пройдёт
И путь к сердцам людей найдёт -
Того в конце пути народ
Своим поэтом назовёт.

# НАША ГІСТОРЫЯ



## Іван АНОШКІН
## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

*(Працяг. Пачатак у № 1)*

Варта заўважыць, што Магілёў здаўна быў значным культурным цэнтрам. Яшчэ ў XVII стагоддзі тут было наладжана друкаванне кніг на беларускай, рускай, польскай мовах царкоўнага і свецкага зместу, у тым ліку і мастацкіх твораў. І сёння ўяўляюць інтарэс выдадзеныя тут «Буквар» (друкарня Спірыдона Собаля, XVII ст.), вершаванае апавяданне «Гутарка аб сваяку» Арцёма Вярыгі-Дарэўскага (1858 г.), «Опыт описания Могилевской губернии» пад рэдакцыяй магілёўскага губернатара А. С. Дэмбавецкага (1882—84 гг.), «Слова и речи Георгия Конисского, архиепископа Могилевского» (1892 г.), «Белорусский сборник» Е. Р. Романова (1901 г.), альманах «Могилев за 1912 год, статьи, заметки, фельетоны», «С кем мы дружили. Исторический очерк русско-немецких отношений» А. І. Бялінскага (1914 г.) і іншыя цікавыя кнігі.



«Буквар» С.Собаля


А.Вярыга-Дарэўскі

Выдаваліся таксама газеты, часопісы, у неафіцыйных аддзелах якіх змяшчаліся краязнаўчыя матэрыялы, літаратурныя творы. Гэты працэс парушыла, замарудзіла імперыялістычная вайна.

А.Дэмбавецкі

Ажыўленне літаратурнага асяроддзя, выдавецкай справы на Магілёўшчыне пакрысе наступаюць пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Гэтаму спрыяла адраджэнне і развіццё роднай беларускай мовы, культуры з пачатку 20-х гадоў. Ва ўсіх кутках Беларусі разгарнуўся масавы літаратурны рух, ствараліся літаратурныя гурткі, аб'яднанні, з іх найбольш прыкметнай арганізацыяй стаў «Маладняк» у сталіцы рэспублікі — Мінску. У 1925 годзе філія маладнякоўцаў узнікла і ў Магілёве. Адным з арганізатараў і першым кіраўніком яе быў выкладчык беларускай мовы і літаратуры мясцовага педтэхнікума, пачынаючы тады драматург Васіль Гарбацэвіч.


Е.Раманаў

*(Працяг будзе)*

# Міхась БУЛАВАЦКІ
## Прызнаньне
### *Інтэрв'ю - прадмова*

– Спадар Міхась! Ваша «Прызнаньне» шырока вядома не толькі ў літаратурных колах. Як так атрымалася?

– *Некалі Алене Анісім спадабаўся гэты твор і яна дала падборку маіх вершаў пра каханне у "Новым часе". З гэтым вершам я зараз раблю так. Калі хтосьці з сваякоў запрашае мяне на вяселле, я раблю прыгожа афармленае віншаванне з дадаткам "Прызнаньня" і, калі даюць мне слова, прапаную маладому пад маю дыктоўку прачытаць каханай гэтыя словы, пасля чаго вымушаю яго паабяцаць кожны год на гадавіну вяселля чытаць жонцы гэты верш. Такое здарылася ўжо сем разоў, ніхто не адмовіўся, -- магчыма, таму што я у прадмове кажу, быццам лепшае у сьвеце прызнаньне у каханьні напісана на беларускай мове. І зараз усе гэтыя сем сем'яў жывуць у згодзе і каханьні. Магчыма, нехта захоча выкарыстоўваць яго гэтак жа, і верш пачне гуляць па вяселлях.*

– Дзякуй вялікі! Няхай так і будзе!



Каханне славіць не мастак.
Але хай чуюць лес і поле,
што я
цябе
кахаю
так,
як не кахаў ніхто ніколі.

Я ў марах жыў нібыта птах,
узнёслы над высокай хмарай.
Цяпер
жыву
табою
так,
як шчэ не жыў ніводны марай.

Хвілінам тым цана пятак,
што без цябе, нібы ў змярцвенні.
Штораз
цябе
чакаю
так,
як не чакаў Хрыстос збавення.

Аб чым мне думаць? Што рабіць?
І як мне карты наваражаць?
Баюся
я
цябе
згубіць,
як не баяўся кары Божай.

Каханне славіць не мастак,
але хай чуе наваколле,
што я
цябе
кахаю
так,
як не кахаў ніхто ніколі.



*Беларускі арнамент "Голуб і галубка". Дзве птушкі павернуты галоўкамі адна да другой, паміж імі букет. Каханне ў самым росквіце.*

# З Днем нараджэння!

**22 мая дзень нараджэння адзначае Мікола Адамавіч ЯЦКОЎ**



*Мікола ЯЦКОЎ*

* * *

У зялёным полымі траўня
Дагараюць зімовыя рэштκі,
Недзе белае знікла бяспраўе,
І душа ажывае нарэшце,
І ў вачах залацяцца зоркі –
Нібы злодзей, я скраў іх з неба…

Будзе добра, не будзе горка,
Не пампэ да жыцця патрэба.

*Тамара АЎСЯННІКАВА*

* * *

Я не Геніюш
І не Арсеннева,
Не Цётка я
І не Янішчыц,
І не належу я да геніяў,
Але такое ж маю сэрца.
І адчуваю боль чужы.
Як быццам у сваёй
у роднай хаце.
І рада я, калі
Другіх сустрэла шчасце.

**24 мая дзень нараджэння адзначае Тамара Пятроўна АЎСЯННІКАВА**



**27 мая дзень нараджэння адзначае Фелікс Уладзіміравіч ШКІРМАНКОЎ**

*Фелікс ШКІРМАНКОЎ*

**НАПАМІН**

Калі пайду туды,
адкуль няма дарогі,
Па ўсіх, з кім хлеб дзяліў і соль,
Я буду сумаваць, прасіць, каб богі
Дапамаглі не зведаць ім
за Бацькаўшчыну боль...

Рабіце кожны дзень добра,
яно патрэбна людзям.
І прэч ганіце зайздрасць,
сквапнасць, злосць.
Бо толькі калі ўсе дабром
дзяліцца будзем,
Скажу упэўнена:
ў нас будучыня ёсць!



**Зычым нашым сябрам моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і новых сонечных вышынь у творчасці!**



**Віншуем!**



## ФОТА АРХІЎ



СЯБРОЎСКАЯ ГУТАРКА
Міхась Булавацкі, Мікола Яцкоў і Сяргей Законнікаў

*15 лютага 2008 г. Офіс "Кола", г.Магілёў*

Фота А.Яцковай

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *30.05.2012 г.. 21.00.*
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.